Гомельская дзіцячая газета

# Крынічка

№8 (28) Верасень 2000 г.

## Першае верасня – Дзень ведаў

*Добры дзень, восень залатая,*
*Школа, сонцам залітая!*
*Наш вялікі светлы клас,*
*Зноў ты сустракаеш нас!*

Напярэдадні першага верасня да позняга часу ў вокнах гарэлі агні. Маці гладзілі дзецям кашулі і сукенкі, думалі, што б такое прыгатаваць на снеданне. Бацькі давалі апошнія навучанні. Здавалася, што ўвесь горад гатуе школьнікаў у далёкі і цяжкі паход...

Вось і Святлана ўстала раней і стала збірацца ў школу.

У гэты дзень на вуліцы панавала вялікае ажыўленне. Усе хлопчыкі і дзяўчынкі, і вялікія і маленькія, як па камандзе высыпалі на вуліцу і ідуць у школу. Яны ідуць і па аднаму, і па двое, і групамі па некалькі чалавек. Хто ідзе ціха, хто імчыцца як на пажар.

Я іду разам з маці і нясу вялізны букет. Усім весела і мне таксама. Але яшчэ мне трохі боязна. Якая яна – школа? Якія будуць сябры? Ці цяжка будзе вучыцца?..

...Зараз мне ўжо 18 год. У гэтым годзе я не пайду ў школу, як раней. І мне сумна.

У мяне новы шлях. Гэта вучоба ў вышэйшай навучальнай установе – ВНУ. І я мяркую, што гэты мой шлях будзе не меньш цікавы.

Я віншую ўсіх вучняў і настаўнікаў са святам 1 Верасня, Днем Ведаў!

Жадаю ўсім поспехаў у вучобе, добрых сяброў, выдатных адзнак, а для настаўнікаў – добрых, старанных вучняў! Са святам вас!

*СВЯТЛАНА.*





*Чытайце ў нумары:*

**МЫ ЖЫВЕМ У БЕЛАРУСІ**

Дасуг з экалогіяй

«Як язычок пакаралі»

*ПЕРАМОЖЦЫ ЛЕТНЯГА КОНКУРСА*

# Мы жывем у Беларусі

Мы з вамі жывем у Беларусі. Беларусь – гэта наша Радзіма. Мы тут нарадзіліся. Тут будзем вучыцца і працаваць. І мова наша – беларуская. Яна для нас святая.

Кожны чалавек павінен ведаць сваю мову. Кожны чалавек павінен умець спяваць свае народныя песні, умець танцаваць свае народныя танцы.

Кожны чалавек павінен ведаць прыказкі свайго народа, ведаць, як святкаваліся спрадвеку святы ў нашым краі.

Чалавеку трэба шмат чаго ведаць. Безумоўна, найлепш трэба ведаць усё роднае. Нам з вамі трэба ведаць найлепш усё беларускае.

А як нам лепш вывучыць беларускую мову?

Трэба слухаць і гаварыць з тымі, хто ведае яе.

Трэба слухаць радыёперадачы на беларускай мове. Трэба глядзець тэлеперадачы на беларускай мове. Трэба слухаць казкі на беларускай мове. Трэба слухаць калыханку на беларускай мове.

**А цяпер падумайце і адкажыце на наступныя пытанні:**

- Ці ведаеце вы беларускія песні?
- Ці ўмееце вы танцаваць беларускія народныя танцы?
- Ці чытаеце вы кніжкі на беларускай мове?
- Ці глядзіце вы калыханку на беларускай мове?

*Кастусь ЦВІРКА*

*Мы прыйшлі ў кнігарню з мамай.*
*На паліцах – безліч кніг!*
*Тоўстых, тонкіх – розных самых,*
*Цэлы свет – у кніжках тых.*

*– Я куплю табе во гэту...*
*Гэту й гэту варта ўзяць...*
*Ты пра ўсе краіны свету*
*З гэтых кніжак будзеш знаць.*

*– О, як добра! Дзякуй, мама!*
*Я пра іх чытаць люблю.*
*Толькі б знаць хацеў таксама*
*Я пра нашую зямлю.*

*І яшчэ – за што, няйначай,*
*Буду ўдзячны я ўдвайне –*
*Ты купі на мове нашай,*
*Беларускай, кніжку мне.*

*То ж Айчыны нашай мова,*
*Мова прадзедаў, бацькоў.*
*У той мове што ні слова –*
*Дыямент жывы вякоў.*

*Невук – хто яе не цэніць.*
*Ці ж магу я здраджваць ёй:*
*Я ж не нейкі адшчапенец,*
*Я ж не нейкі чужаземец*
*На святой зямлі сваёй.*





## Загадкі-рыфмаванкі

Маленькія лапкі,
На лапках царапкі,
Ціхенька ступае,
Мышак выглядае.

З людзьмі сябруе,
Хату вартуе,
Жыве пад ганкам,
Хвост абаранкам.

З грывай, а не конь,
З рагамі, а не бык,
З барадой, а не казёл.
Гучна-гучна зароў
Цар пушчанскіх звяроў.

Каля плота расце,
Як даткнешся – апячэ.

**Адгадайце загадку**

Што за такія чатыры пары,
Што за такія чатыры сястры:
Першая – назбірае вады,
Другая – арэ і сее,
Трэцяя – росціць рупліва плады,
Чацвёртая – есці ўмее.

# Вывучаем «Канвенцыю аб правах дзіцяці»



## Ст. 28. Дзіцяці мае права на бясплатную адукацыю:

*1. бясплатная і абавязковая пачатковая адукацыя;*

*2. даступная для ўсіх дзяцей сярэдняя адукацыя – як агульная, так і прафесіянальная;*

*3. даступная вышэйшая адукацыя на аснове здольнасцей кожнага.*



**Усе з вас, паважаныя чытачы, ведаюць казку «Залаты ключык».**

**Памятаеце, як тата Карла пасылаў Бураціна ў школу? Але Бураціна не паслухаў бацьку... І што з гэтага атрымалась, вы ведаеце!**

**Як вы лічыце, сябры, хто ў гэтай казцы мае рацыю: тата Карла ці Бураціна?**

Уладзімір ЛІПСКІ

# ЧУЖАЗЕМЕЦ

## Апавяданне пра пакаранне

АНТОНІК-Понік вярнуўся з дзіцячага сада сумны і ўсхваляваны. Маці насцярожылася:

- Сынок, што з табой?
- Сёння мяне пакаралі.
- За што?
- За словы.
- Ты - брыдкаслоў?
- Не, мама, я тваімі словамі размаўляў з выхавальніцай, а яна паставіла мяне ў кут.
- Нічога не разумею.
- Ты, мама, кожны вечар чытаеш нейкую кнігу не па-нашаму.
- Ну і што?
- Калі мне не спіцца, я слухаю твае словы і запамінаю.
- Як жа ты размаўляў з выхавальніцай? - зацікавілася мама.
- Яна кажа: «Дзеці, ідзіце снедаць!»
- Я ёй адказваю: «Не хачу **брэкфаста**».

Мама ўсміхнулася, бо ведала, што па-англійску снеданне і ёсць **брэкфаст**. А сын сур'ёзна тлумачыў далей:

- Выхавальніца зазлавала і кажа: «На снеданне ніякага **брэкфаста** няма, не выдумляй. Будзем есці малако і хлеб. А я ёй адказваю: «Не хачу **мілка** і **брэда**».
- А яна што? - заўсміхалася мама.
- Што? Кажа, калі такі разумны, то пойдзеш зараз спаць.
- А я ёй: «Не хачу **сліп**, хачу **іт** і **рыд**».
- Сынок, і ты запомніў, што **сліп** - гэта спаць, **іт** - есці, а **рыд** - чытаць?
- Хачу ведаць усе словы, якія ты вучыш вечарам! - адказаў Антонік-Понік.
- І за гэта цябе пакаралі?
- 0 **ес**, мама!

Мама ласкава прытуліла да сябе Антоніка:

- Чужаземчык ты мой, кладзіся спаць. Заўтра выхадны дзень, і мы з табой вывучым новыя англійскія словы.

**Ці права была выхавальніца, калі паставіла хлапчука ў кут?**



# ДАСУГ З ЭКАЛОГІЯЙ

## ЛІСТАПАД

*Пэўна сонца знемаглося,*
*Адпачыць пайшло за хмары,*
*І паўзе павольна восень*
*Па іржышчы і папары.*

*І ад холаду рабіна*
*Чырванее, нізка гнецца.*
*Паляцелі гусі клінам,*
*Каб у выраі пагрэцца.*

*Сыплюць лісцікі бярозы,*
*Стала ветрана і суха.*
*Недалёка ўжо марозы,*
*І снягі, і завіруха.*

*С. Шушкевіч*




### Прыказкі пра восень

Увосень і верабей сыты.
Увосень і грач багач.
Восень на шэрым кані ездзіць.
Увосень за стол просім.

# МАЯ ЛЮБІМАЯ ВОСЕНЬ

Ці любіце вы восень? Я вельмі люблю восень. Восень багатая. Восень шчодрая. Восень прыгожая. Дрэвы стаяць жоўтыя, чырвоныя. Зямля ў лесе, у парках, засыпаная лісцем, падобна на рознакаляровы дыван. Глядзіш, не наглядзішся.

А колькі багацця восенню! Яблыкі! Кавуны! Памідоры! Сланечнікі! Бульба! Буракі! Морква! Усё спелае, свежае, сакавітае, толькі што з градкі. На рынку шмат садавіны. Выбірай, што падабаецца.

Людзі шмат працуюць восенню: і дарослыя, і дзеці. Збіраюць яблыкі, капаюць бульбу, буракі, моркву...

А ў вольны час спяшаюцца ў лес палюбавацца дзівосамі. А дзівосаў там шмат. Радуюць вока багата ўбраныя дрэвы. Грыбы-прыгажуны вабяць сваімі шапачкамі, вітаюцца з грыбнікамі, просяцца да іх у кошык.

Колькі месяцаў трывае восень? Тры: верасень, кастрычнік, лістапад.

Давайце падумаем, што значаць назвы месяцаў.

Ёсць такая расліна – верас – з дробным лісцем і маленькімі лілова-ружовымі кветкамі. Верас расце нізка, уецца па ўзлессі, цвіце ранняй восенню. Адсюль і назва месяца. У кастрычніку лён труць і сыплюцца з яго рэшткі – кастрыца. У лістападзе лісце падае.

Давайце паўторым назвы восеньскіх месяцаў: верасень, кастрычнік, лістапад.

# Паспяховая рыбалка

***Злучы па парадку кропкі – і ты даведаешся, што злавіў рыбак.***



# Знаёмцеся: нашы пераможцы летніх конкурсаў ☺



Насця ЕРАМЧУК



Іра СУСЛО



Сяргей БАЛАБАНАЎ

**Дзякуй усім, хто даслаў нам у «Крынічку» свае лісты. Ніводны з іх не застаўся без увагі.**

**Паважаныя сябры, конкурс працягваецца! Прысылайце да нас свае гісторыі, казкі, вершы, апавяданні, крыжаванкі, малюнкі...**

**Але – умова! Усё гэта павінна быць на беларускай мове. У канцы лістапада будуць падведзены ітогі восеньскіх конкурсаў. Поспехаў вам, паважаныя сябры!**

## Сябры!

*Калі вы жадаеце павіншаваць з якім-небудзь святам сваіх блізкіх і сяброў, то дасылайце свае лісты за месяц ці два да падзеі. Толькі зазначце чысло і месяц падзеі.*

*13 верасня з днём нараджэння віншуем сваю сяброўку Аню Шэршнёву.*

*Жадаем быць такой прыгожай, як раніцай кветкі ў расе. Жадаем быць такой шчаслівай, каб зайздросцілі ўсе!*

*Сяброўкі Надзея і Аня.*

*З днём нараджэння віншуем сваіх маці і тату – у верасні у іх абодвух дзень нараджэння. Жадаем ім здароўя, шчасця, кахання на доўгія гады, поспехаў у працы. А мы абяцаем іх слухаць і добра вучыцца.*

*Жэня і Дзіма.*



Усіх віншуем з Днём ведаў! Жадаем поспехаў у вучобе, новых сяброў!





Даір СЛАЎКОВІЧ

# Як язычок пакаралі

Згубіўся ў мамы фанендаскоп - трубка гумавая, якою хворых слухаюць. А мама Ленчына - доктар. Без трубкі ёй ніяк нельга.

- Дзе фанендаскоп мог падзецца? - пытаецца мама. - Ты яго не брала, Лена?

- Не, - апусціла вочы дачка.

- Дзіўна. Добра памятаю, што паклала вось сюды, на паліцу.

- Да нас ніхто не заходзіў, - пачала апраўдвацца Галя, старэйшая сястра Лены. І раптам успомніла: - Ты ж, Ленка, гуляла з мамінай трубкай. На падворак з ёю бегала.

- Я назад прынесла, - заміргала вачыма Лена.

- Мо сходзіш, паглядзіш на тым месцы, дзе гуляла? - нахмурылася мама.

- Цёмна там, - апусціла галаву Лена. - І трубкі няма.

- Дзе ж яна?

- Мо певень ухапіў! Ён у сенцы зазіраў, калі дзверы былі адчыненыя.

- Ха-ха-ха! - рассмяялася Галя. - Навошта пеўню трубка? Куранятам жываты слухаць?

- Зараз я ў курыны хляўчук пайду, - сказала мама. - Запалю электрычнасць, пагляджу, ці ў пеўня мой фанендаскоп.

- А куды спяшацца? - Лена дакранулася да цёплай мамінай рукі. - Раніцай я сама ў пеўня трубку забяру.

- А калі ўначы мяне да хворага паклічуць?

- Тады... я сама пайду да пеўня, - уздыхнула Лена і адчыніла дзверы ў сенцы.

- Не пойдзе, - скрывілася Галя.- Цемнаты пабаіцца.

Аднак Лена пайшла. Яе сандалі пратупалі з сянец на ганак. Прыціхлі на хвілінку, а потым хуценька-хуценька заляскалі па цэментовай дарожцы ў бок лаўкі.

Вярнулася Лена. Паклала на тумбачку фанендаскоп. Той самы, якім у бальніцах хворых слухаюць і пры гэтым гавораць: «Дыхайце. Глыбей. Пакашляйце...»

Узяла мама ў руку гумавую трубку з жалезкамі на канцах, з блішчастым металічным вушкам пасярэдзіне. Агледзела і пытаецца:

- Дзе знайшла?

- У хлеўчуку курыным.

- Як жа ты там святло ўключыла? Выключальнік - высока, - Галя з хітрынкай зірнула на сястру.

- А я... мне певень дапамог, - адказала Лена і пачырванела.

Неўзабаве вячэраць селі. Мама на стол вішнёвае варэнне паставіла, у кубачкі залацістага чаю наліла. Галя з буфета блішчастыя лыжачкі дастала.

Лена раптам схапіла лыжачку і пачала лупцаваць сябе па языку і прыгаворваць:

- Вось табе, брахуну!

- Навошта ты так? - спытала мама.

- Ён, мама, пра ўсё схлусіў: і пра трубку, і пра пеўня. Я караю яго, брахуна.

- Што ж, сапраўды язычок твой вінаваты. Толькі, можа, інакш пакараць: не даць яму любімага варэння!

- Не, мама, варэнне давай. Я буду глытаць яго так, каб на язычок і кропелькі не папала.



**Калі вы адгадаеце крыжаванку, то прачытаеце зашыфраванае слова.**

## Крыжаванка



*1. Ён ляжыць
Альбо вісіць...
А пачне ледзь
Галасіць –
Дзеткі косяцца шторaз
Ці то з класа, ці то ў клас.*

*2. Калі ён адпачывае,
На той час усё сціхае.
І лісты не шалісцяць,
Ды і дрэвы не шумяць.*

*3. Дзве блакітных палавіны
Умясцілі ўсе краіны.
Яны ў школе на сцяне...
Ведаеш ты іх ці не?*

*4. Унутры кардоннай хаткі
Спяць радком
Браты-блізняткі.
Толькі ў кожнага блізняткі
Свайго колеру апратка.*

*5. Мы на полі яе бралі,
Потым с Поляй перабралі.
Ночкай трамбавалі
Ў бочку.
Будзе ўсім да густу,
Любім мы ...*



*6. Сіняя
пасціла
Увесь свет
накрыла.*

*7. Белае поле,
Чорнае насенне.
Хто яго сее, той разумее.*

*8. Ад сонца нараджаецца,
За ўсімі ён ганяецца.
Як толькі сонца зойдзе,
Яго ніхто не знойдзе.*

*Крыжаванку даслала Аня Шургіна.*

## Дапамажыце вусеню схавацца ад дажджу!



## Смяшынкі

☺ Чаму расплакалася Ната,
Падрапаны і нос, і вушы?
- Сама малая вінавата,
Бо толькі-толькі ўпала з грушы.
А ты ў той самы час дзе быў,
Чаму сястрычку не злавіў?
Прамармытаў хлапчук пад нос:
- Я ў гэты момант грушу трос...

☺ Алесь разламаў глобус.
- Навошта ты гэта зрабіў? - спытаў яго старэйшы брат.
- Я хацеў паглядзець, што ў сярэдзіне Зямлі.

*Уладзімір Мацвеенка.*

☺ У Веры пытаюцца:
- А дзе твая бабуля?
Малая адказвае:
- Сядзіць на пенсіі. Гэта крэсла такое...

☺ - Мама, пайшлі на вуліцу. Я абяцала з табой пагуляць...

☺ Доктар спытаў у Жэні:
- Што цябе турбуе?
Жэня ў адказ:
- Пантоплі ціснуць...

*Эла Бярноўская.*

Дзіцячая газета КРЫНІЧКА

Над нумарам працавалі:
*Валянціна БУДНІКАВА,
Таццяна ШУЛЬГА (адказная за выпуск)*
Наш адрас: *246036, г.Гомель, вул. Б.Хмяльніцкага, 93 - 6.*
Наклад *– 250 экз.*

*Шчыра дзякуем аб'яднанню «Грамадзянскія ініцыятывы» за дапамогу ў выпуску нумара!*